# ПАСЛАННЕ ДА КАЛАСЯНАЎ

## 1 (1-29)

[1]Павел, з волі Божай апостал Езуса Хрыста, і брат Цімафей – [2]святым і
верным братам у Хрысце, якія ў Калосах: ласка вам і спакой ад Бога, Айца
нашага.

[3]Дзякуем Богу, Айцу нашага Пана Езуса Хрыста, заўсёды, калі молімся за
вас, [4]бо мы пачулі пра вашую веру ў Хрысце Езусе і пра любоў, якую маеце да
ўсіх святых [5]дзеля надзеі, што захавана для вас у нябёсах. Вы пачулі пра яе
раней у слове праўды Евангелля, [6]якое прыйшло да вас. І як яно прыносіць плён
і расце ва ўсім свеце, так і сярод вас, пачынаючы з дня, калі вы пачулі і пазналі
Божую ласку ў праўдзе. [7]Вы навучыліся ёй ад Эпафраса, нашага ўмілаванага
супольніка ў служэнні, вернага слугі Хрыстовага для вас, [8]які і выявіў нам
вашую любоў у Духу.

[9]Таму і мы, з таго дня, калі пачулі пра вас, няспынна молімся і просім, каб
вы напоўніліся пазнаннем Яго волі ва ўсёй мудрасці і духоўным разуменні;
[10]каб вы паступалі годна Пана і ва ўсім падабаліся Яму, прыносячы плён ва
ўсякай добрай справе і ўзрастаючы ў пазнанні Бога; [11]каб вы цалкам
умацоўваліся паводле моцы славы Ягонай для поўнай вытрываласці і
доўгацярплівасці. З радасцю

[12]дзякуйце Айцу,
які зрабіў вас здольнымі ўдзельнічаць у спадчыне святых у святле,
[13]які вызваліў нас з-пад улады цемры
і прывёў у Валадарства ўмілаванага Сына свайго,
[14]у якім мы маем адкупленне
і адпушчэнне грахоў.
[15]Ён з’яўляецца вобразам нябачнага Бога,
першародным сярод усякага стварэння.
[16]Бо ў Ім было створана ўсё, што на нябёсах і на зямлі,
бачнае і нябачнае:
ці троны, ці панаванні,
ці начальствы, ці ўлады –
усё праз Яго і для Яго створана.
[17]Ён ёсць перад усім,
і ўсё трывае ў Ім.
[18]Ён – Галава цела, гэта значыць, Касцёла.
Ён – пачатак, першародны з памерлых,
каб ва ўсім Ён меў першынство.
[19]Бо спадабалася [Богу], каб у Ім жыла ўся паўната
[20]і каб праз Яго прымірыць з сабою ўсё,
і зямное, і нябеснае,
усталяваўшы спакой праз кроў Ягонага крыжа.

[21]Хоць вы калісьці былі адчужаныя і варожыя паводле мыслення і сваіх
ліхіх справаў, [22]цяпер Ён прымірыў вас у сваім зямным целе праз сваю смерць,
каб паставіць вас перад сабою святымі, беззаганнымі і бездакорнымі, [23]калі

толькі вы сапраўды непарушна і цвёрда трываеце ў веры і не даеце адвесці сябе
ад надзеі Евангелля, якое пачулі і якое было абвешчана ўсяму стварэнню пад
небам, слугою якога стаў я, Павел.
[24]Цяпер я радуюся за вас у цярпеннях і дапаўняю недахоп у маім целе
пакутаў Хрыста за Ягонае цела, якім ёсць Касцёл, [25]слугою якога я стаў паводле
дадзенага мне дзеля вас Божага распараджэння, каб абвяшчаць слова Божае,
[26]таямніцу, схаваную ад вякоў і ад пакаленняў, якая цяпер аб’явілася Ягоным
святым. [27]Ім захацеў Бог адкрыць сярод язычнікаў багацце славы гэтай
таямніцы, якою ёсць Хрыстус сярод вас – надзея славы. [28]Яго мы абвяшчаем,
настаўляючы і навучаючы кожнага чалавека ўсялякай мудрасці, каб учыніць
кожнага дасканалым у Хрысце. [29]Дзеля гэтага я і працую, змагаючыся
дзякуючы Яго моцы, якая магутна дзейнічае ўва мне.

## 2 (1-23)

[1]Бо я хачу, каб вы ведалі, якую вялікую барацьбу я вяду за вас і за тых, хто
ў Лаадыкеі, а таксама за ўсіх тых, хто не бачыў мяне асабіста. [2]Няхай будуць
заахвочаны сэрцы іхнія і злучаны ў любові дзеля ўсяго багацця паўнаты
разумення, дзеля пазнання таямніцы Бога, Хрыста, [3]у якім схаваны ўсе скарбы
мудрасці і пазнання. [4]Я кажу гэта, каб хто з вас не паддаўся зману прывабных
словаў. [5]Бо хоць я і адсутнічаю целам, але ў духу я з вамі і радуюся, калі бачу
ваш лад [жыцця] і цвёрдасць вашай веры ў Хрысце.
[6]Як вы прынялі Пана Езуса Хрыста, так пастуапайце ў Ім, [7]укаранёныя і
збудаваныя ў Ім, умацаваныя вераю, як навучылі вас, перапаўняючыся
ўдзячнасцю. [8]Глядзіце, каб ніхто не захапіў вас у палон філасофіяй і марным
падманам паводле чалавечай традыцыі, паводле стыхій свету, а не паводле
Хрыста. [9]Бо ў Ім цялесна жыве ўся паўната боскасці, [10]і вы атрымалі паўнату ў
Ім, які ёсць Галавою ўсялякага панавання і ўлады. [11]У Ім вы таксама абрэзаныя
Хрыстовым абразаннем, а не чалавечым абразаннем зямнога грахоўнага цела.
[12]Пахаваныя ў хросце разам з Ім, вы ўваскрэслі таксама ў Ім дзякуючы веры ў
дзеянне Бога, які ўваскрасіў Яго з мёртвых. [13]І вас, мёртвых з-за правінаў і
неабразанне цела вашага, Ён ажывіў разам з Ім, дараваўшы ўсе правіны. [14]Ён
сцёр запіс нашых даўгоў, які быў супраць нас, і скасаваў яго, прыбіўшы да
крыжа. [15]Раззброіў панаванні і ўлады, выставіў іх напаказ, трыумфальна
перамогшы іх у [Хрысце].
[16]Няхай ніхто не асуджае вас за ежу, піццё або святы, або адзначэнне
маладзіка ці шабатаў. [17]Гэта цень будучых рэчаў, [а тут ёсць] цела Хрыста.
[18]Няхай не зводзіць вас той, хто мае ўпадабанне ў самапрыніжэнні і пакланенні
анёлам, хто ўваходзіць у тое, што ўбачыў, марна раздзімаючы сваім цялесным
розумам, [19]але не трымаючыся Галавы. Ад яе ўсё цела, якое падтрымліваецца і
ўмацоўваецца суставамі і сухажыллямі, узрастае ростам Божым.
[20]Калі вы памерлі разам з Хрыстом для стыхіяў свету, чаму вы
падпарадкоўваецеся правілам, нібы яшчэ жывяце ў свеце? [21]«Не чапай, не
каштуй, не дакранайся». [22]Але ж усё гэта знішчыцца праз выкарыстанне
паводле чалавечых наказаў і вучэнняў. [23]З прычыны павярхоўнай рэлігійнасці,

самапрыніжэння і ўтаймавання цела гэта стварае толькі выгляд мудрасці, але не
мае ніякай вартасці, бо служыць самазадавальненню.

## 3 (1-25)

[1]Калі ж вы ўваскрэслі з Хрыстом, шукайце таго, што ў вышынях, дзе
Хрыстус сядзіць праваруч Бога; [2]пра тое, што ў вышынях, думайце, а не пра
зямное, [3]бо вы памерлі, і жыццё вашае схавана з Хрыстом у Богу! [4]Калі ж
з’явіцца Хрыстус, жыццё вашае, тады і вы з’явіцеся разам з Ім у хвале.
[5]Таму зрабіце мёртвым тое, што зямное ў целе вашым: распусту,
нячыстасць, пажадлівасць, дрэнныя памкненні і хцівасць, якая з’яўляецца
ідалапаклонствам. [6]З-за гэтых [рэчаў] гнеў Божы сыходзіць на сыноў
непаслухмянасці, [7]сярод якіх і вы калісьці хадзілі, калі жылі сярод іх. [8]Цяпер жа
і вы адкіньце гэта ўсё: гнеў, абурэнне, злосць, блюзнерства, зласлоўе з вуснаў
вашых. [9]Не хлусіце адзін аднаму, бо вы знялі з сябе старога чалавека разам з
ягонымі ўчынкамі [10]і апрануліся ў новага, які абнаўляецца для пазнання
паводле вобраза таго, хто стварыў яго. [11]І тут ужо няма ні грэка, ні юдэя, ні
абразання, ні адсутнасці абразання, ні чужаземца, ні скіфа, ні нявольніка, ні
свабоднага, але ўсё і ва ўсім – Хрыстус.
[12]Апраніцеся ж як выбранцы Божыя, святыя і ўмілаваныя, у шчырую
міласэрнасць, лагоднасць, пакору, далікатнасць, доўгацярплівасць, [13]церпячы
адзін аднаго і даруючы сабе ўзаемна, калі хто на каго мае крыўду; як Пан
дараваў вам, так і вы. [14]А па-над усім гэтым апраніцеся ў любоў, якая ёсць
повяззю дасканаласці. [15]І няхай валадарыць у сэрцах вашых спакой Хрыстовы,
да якога вы пакліканыя ў адным целе. І будзьце ўдзячнымі.
[16]Слова Хрыста няхай жыве ў вас ва ўсёй паўнаце, з усёй мудрасцю
навучайце і настаўляйце адзін аднаго псальмамі, гімнамі і духоўнымі песнямі, з
удзячнасцю спяваючы ў сэрцах вашых Богу. [17]І ўсё, што б вы ні рабілі словам ці
ўчынкам, усё рабіце ў імя Пана Езуса, дзякуючы праз Яго Богу Айцу.
[18]Жонкі, падпарадкоўвайцеся мужам, як належыць у Пану. [19]Мужы,
кахайце жонак і не будзьце суровымі да іх. [20]Дзеці, будзьце паслухмянымі
бацькам ва ўсім, бо гэта падабаецца Пану. [21]Айцы, не раздражняйце дзяцей
вашых, каб яны не падалі духам. [22]Нявольнікі, падпарадкоўвайцеся ва ўсім
сваім гаспадарам паводле цела, служыце ім не для выгляду, нібы жадаючы
спадабацца людзям, але ад шчырага сэрца, баючыся Пана. [23]Усё, што б вы не
рабілі, рабіце ад душы, як для Пана, а не для людзей, [24]ведаючы, што ад Пана
атрымаеце ва ўзнагароду спадчыну. Будзьце нявольнікамі Хрыста Пана. [25]Той,
хто робіць крыўду, расплаціцца за зробленую крыўду, без увагі на яго асобу.

## 4 (1-18)

[1]Гаспадары, будзьце справядлівымі і непрадузятымі да нявольнікаў,
ведаючы, што і вы маеце Пана ў небе.
[2]Непахісна трывайце ў малітве, чуваючы на ёй з падзякаю. [3]У той жа час
маліцеся і за нас, каб Бог адчыніў нам дзверы слова для абвяшчэння таямніцы

Хрыстовай, дзеля якой я і зняволены, [4]каб адкрываць яе так, як мне належыць
абвяшчаць. [5]Мудра паводзьце сябе ў дачыненні да тых, хто звонку,
выкарыстоўваючы нагоду. [6]Няхай слова вашае заўсёды будзе ласкавае,
прыпраўленае соллю, каб вы ведалі, як трэба кожнаму адказваць.

[7]Пра мяне ўсё раскажа вам Тыхік, умілаваны брат мой, верны слуга і
супольнік у Пану. [8]Я паслаў яго да вас, каб вы даведаліся пра нашыя справы і
каб ён падбадзёрыў вашыя сэрцы, [9]а разам з ім і Анэзіма, вернага і ўмілаванага
брата, аднаго з вас. Яны раскажуць вам усё, што тут адбываецца.

[10]Вітаюць вас Арыстарх, мой сувязень, і Марк, стрыечны брат Барнабы
(наконт яго вы атрымалі наказы; калі ён прыйдзе да вас, прыміце яго), [11]а
таксама Езус, якога завуць Юстам. Яны паходзяць з абрэзаных. Будучы маімі
адзінымі супрацоўнікамі ў справе Божага Валадарства, яны сталі для мяне
суцяшэннем. [12]Вітае вас Эпафрас, адзін з вас, слуга Езуса Хрыста. Ён заўсёды
змагаецца за вас у малітвах, каб вы сталі дасканалымі і напоўніліся ўсялякаю
Божаю воляю. [13]Я сведчу пра яго, што ён вельмі клапоціцца пра вас, а таксама
пра тых, хто ў Лаадыцэі і Гераполісе. [14]Вітае вас Лука, умілаваны лекар, і
Дэмас. [15]Прывітайце братоў маіх у Лаадыцэі і Німфа, а таксама тых, хто
збіраецца ў ягоным доме. [16]Калі ў вас будзе прачытаны гэты ліст, то зрабіце так,
каб яго прачыталі і ў Лаадыцэйскім Касцёле, а той, што з Лаадыцэі, прачытайце
і вы. [17]І скажыце Архіпу: «Глядзі, каб выканаў служэнне, якое прыняў ад Пана».

[18]Гэта маё, Паўла, уласнаручнае прывітанне. Памятайце пра мае кайданы.

Ласка з вамі.

© Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі